• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • кошт 3000 рублёў

26 жніўня 1998 г. серада, № 167 (23518)





ЗВЯЗДА

## У ВЕРАСНІ ПЕНСІЯНЕРЫ БУДУЦЬ З ГРАШЫМА

**Як паведамілі «Звяздзе» ў Фондзе сацыяльнай абароны насельніцтва, пенсіі ў жніўні састарэлым людзям выплачаны поўнасцю. Па словах старшыні фонду Людмілы Бачыла, надрэнна ідзе назапашванне сродкаў для фінансавання своечасовых выплат вераснёўскіх пенсій.**

У наступным месяцы для разліку з пенсіянерамі спатрэбіцца каля 4,75 трыльёна рублёў. Па стану на 25 жніўня на рахунках фонду закамулірована больш за 4 трл. рублёў, што складае амаль 90 працэнтаў ад патрабуемай сумы. Старшыня фонда спадзяецца, што ўжо да 1 верасня ўсе неабходныя грошы будуць пераведзены на рахункі фонда. На жаль, застаецца на даволі высокім узроўні сума пратэрмінаванай запазычанасці ўсіх структур краіны на адлічэннях у Фонд сацыяльнай абароны. На сённяшні дзень даўгі складаюць 2 трл. рублёў. Па словах Людмілы Бачыла, галоўныя даўжнікі фонду — Міністэрства прамысловасці (1 трл. 250 млрд. рублёў) і Мінсельгасхарча (560 млрд. рублёў). Што датычыцца Мінска, то ў ім кожнае буйное вытворчае прадпрыемства завінавяціла фонду даволі вялікія грошы.

**Сяргей КУРКАЧ.**



**І ўсе ж лета было!**

Фота Сяргея ПЯТРОВА.

## ІНТЭРВ'Ю ПРЭЗІДЭНТА ЎКРАІНСКАМУ ТЭЛЕБАЧАННЮ

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнка 25 жніўня 1998 года даў інтэрв'ю прадстаўнікам Нацыянальнай тэлекампаніі Украіны.**

Як паведаміла прэс-служба Прэзідэнта, адказваючы на пытанні ўкраінскіх журналістаў, кіраўнік дзяржавы спыніўся на стане двухбаковых адносін Беларусі з паўднёвым суседам. У гэтым кантэксце было адзначана, што яны маюць дружалюбны характар, а Украіна з'яўляецца другім па значнасці эканамічным партнёрам Беларусі на прасторы СНД. Адначасова прэзідэнт падкрэсліў, што адной з важных задач у інтарэсах далейшага паглыблення супрацоўніцтва з'яўляецца аднаўленне эканамічных сувязей, якія існавалі раней.

Па просьбе прадстаўнікоў украінскага тэлебачання кіраўнік дзяржавы даў ацэнку некаторым аспектам унутрыпалітычнага і эканамічнага становішча ў краіне, расказаў аб вопыце па аднаўленню жыццядзейнасці беларускіх прадпрыемстваў, уздыму вытворчасці.

Закрануўшы сацыяльныя праграмы, А.Р.Лукашэнка са спасылкай на учарашнюю сустрэчу з прэм'ер-міністрам С.С.Лінгам адзначыў, што ўраду, у прыватнасці, дадзена даручэнне завяршыць распрацоўку праланоў па паэтапнаму павышэнню аплаты працы і прыняць меры па павелічэнню зарплаты з 1 кастрычніка 1998 года на 20 працэнтаў, а з 1 студзеня 1999

(Заканчэнне на 2-й стар.)

## П'ЯНЫ ВАДЗІЦЕЛЬ УРЭЗАЎСЯ Ў ГРУПУ ЛЮДЗЕЙ, ЯКІЯ СТАЯЛІ НА ПРЫПЫНКУ ГРАМАДСКАГА ТРАНСПАРТУ

**Вечарам 24 жніўня ў Мінску адбылася аўтакатастрофа, у выніку якой два чалавекі загінулі, трое паранены.**

Як паведаміў БелаПАН інспектар упраўлення Дзяржаўтаінспекцыі Сяргей Макарэвіч, у 19.45 на вуліцы Сурганава вадзіцель аднаго з закрытых акцыянерных таварыстваў Мінска, знаходзячыся ў стане алкагольнага ап'янення, не справіўся з кіраваннем аўтамашынай ВАЗ-2106 і ўдарыўся ў ГАЗ-24, які стаяў каля праезджай часткі. Пасля гэтага «Жыгулі» выцелі на тратуар і ўрэзаліся ў групу людзей, якія стаялі на прыпынку грамадскага транспарту.

У выніку аварыі на месцы здарэння загінуў 4-гадовы хлопчык і жанчына, асоба якой не ўстаноўлена. Маці хлопчыка, 1970 года нараджэння, з чэрапна-мазгавой траўмай сярэдняй цяжкасці дастаўлена ў 6-ю гарадскую клінічную бальніцу, куды дастаўлены яшчэ дзве жанчыны. Вадзіцель аўтамашыны не пацярпеў і ўзяты пад варту. Па факту здарэння ўзбуджана крымінальная справа.

Па словах С.Макарэвіча, загінуўшай жанчыне на выгляд 60—65 гадоў, рост 165 см, поўнага целаскладу, валасы цёмныя. У момант аварыі была апранута ў шэрую вязаную кофту, чырвоную кашулю, чорныя туфлі. Пры сабе мела чорную сумку.

Упраўленне Дзяржаўтаінспекцыі Мінска звяртаецца з просьбай да відавочцаў здарэння пазваніць па тэлефонах: 222-17-17 і 222-08-32.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.**

## Разбагацеў на шынах...

**Эпапея выкрыванняў, якія звязаны са сталічным аўтазаводам, падобна, працягваецца.**

Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў Міністэрстве унутраных спраў, супрацоўнікамі Заводскага ўпраўлення унутраных спраў узбуджана крымінальная справа супраць намесніка начальніка знешняй камплектацыі прадпрыемства.

Па інфармацыі, якую прадаставілі нашай газеце, намеснік начальніка пракрруцўў аперацыі, калі, злоўжываючы службовым становішчам, змог «абагаціцца» на 200 аўтамабільных шын. Між іншым, «гума» па падліках спецыялістаў пацягнула на суму крыху больш за мільярд рублёў.

**Ігар ГРЫШЫН.**

## Беларускія палітыкі спадзяюцца на прадказальнасць Чарнамырдзіна

**Чарговыя змены ў расійскім урадзе і вяртанне Віктара Чарнамырдзіна ўжо не выклікалі ў асяроддзі беларускіх палітыкаў такога моцнага і працяглага здзіўлення, як пяць месяцаў таму, пасля адстаўкі «нязменнага» прэм'ера. Мусіць, тлумачыцца гэта тым, што тады не было вядома імя новага кіраўніка ўрада. Ды і публіка паступова пачынае прывыкаць да тактыкі кіраўніцтва Ельцына, часцей ужываючы прымаўку «умом Россию не понять». Цяперашні першапачатковы шок неўзабаве пераходзіць у халодны аналіз будучых падзей. Мінская палітычная эліта толькі ў першы дзень адмаўлялася ад каментарыяў пра ход падзей у Расіі; пасля пачало пераважаць агульнае меркаванне, што гэта не больш, як унутраная справа суседняй дзяржавы. Большасць тых, да каго «Звязда» звярнулася з просьбай пракаменціраваць «маскоўскую ракіроўку», адобрылі вяртанне Чарнамырдзіна, падкрэсліўшы яго прадказальнасць і вопыт. Прынамсі, не будзем пераказваць іх словы. Вось што непасрэдна было сказана ў інтэрв'ю нашай газеце.**

**Мікалай ЧАРГІНЕЦ, старшыня Камісіі па нацыянальнай бяспецы Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу:**

— Мы ўважліва сочым за развіццём падзей у Расіі, таму што адносіны з нашай усходняй суседкай вельмі многае азначаюць для Беларусі. З трывогай назіраем як за скачкамі ў эканоміцы, якія не дазваляюць расіянам дасягнуць неабходнага ўзроўню жыцця, так і за зменамі на вышэйшым узроўні. Сёння складана загадваць наперад, паколькі яшчэ невядома, як паставяцца да прызначэння Віктара Чарнамырдзіна Дзярждума і Савет Федэрацыі. Гэта настолькі заблытаная справа, што паспешлівыя парады і разважанні могуць быць непатрэбнымі ці шкоднымі.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

*Грошы*

## І зноў у Маскве «чорны аўторак»

### Расійскі рубель у чарговы раз здае пазіцыі

Расія перажыла ўчора не самы лепшы свой аўторак. На Маскоўскай міжбанкаўскай валютнай біржы двойчы спынялі таргі на тэхнічны перапынак: рубель катастрафічна падаў. У выніку ў параўнанні з панядзелкам апошні скаціўся на 72 капейкі, гэта значыць на 11 працэнтаў. Як сведчаць эксперты, задаволіць попыт пакупнікоў так і не ўдалося: апетыт на СКВ у іх разгарэўся.

З чым звязваюць у Расіі дадзены «феномен»? Многія схіляюцца да думкі, што на сітуацыю значна паўплывала нявызначанасць з выплатай па дзяржаўных абавязках. Маўляў, таму ўсе кінуліся ўкладваць сродкі ў надзейныя актывы, чым і з'яўляецца СКВ. Між тым зарэгістравана ў суседняй дзяржаве і рэзкае павышэнне цэн на найбольш папулярныя акцыі: тыя ж акцыі Газпрама падняліся ў цане на 20 працэнтаў. На Маскоўскай фондавай біржы таргі таксама прыпыняліся двойчы.

У Беларусі зноў, як заўсёды, на падзеі ў Расіі першым адрэагаваў «чорны рынак». Курс беларускага рубля раніцай у адносінах да наяўнага долара складаў 76 тысяч рублёў за адзін амерыканскі долар. Прычым у асноўным з продажам «валютчыкі» «не забаўляліся» — працавалі на скупцы валюты. Міжбанк трымаўся на мяжы ў 125 тысяч рублёў за долар. Несумненна, пагаршэнне самаадчування расійскага рубля не лепшым чынам адаб'ецца і на беларускім. Па каментарый «Звязда» звярнулася да **загадчыка аддзела Інстытута эканомікі Нацыянальнай акадэміі навук Аляксандра ЛУЧАНКА.**

**— Аляксандр Іванавіч, як вы лічыце чарговы абвал расійскага рубля звязаны з нявызначанасцю сітуацыі на рынку ДКА, або ёсць яшчэ нейкія прычыны?**

(Заканчэнне на 2-й стар.)

Российская Коммунистическая Партия (большевиков).

Пролетарии всех стран, соединяйтесь!

ЗВЕЗДА

орган Центрального Бюро Коммунистической партии (большевиков) Белоруссии.

Цена отдельного № 5 руб.

Последние известия.

К моменту выхода номера ночных телеграмм не поступило.

А 18 августа 1923 г. Год издания 6-й № 192 (1439)

Сегодня 18 августа 1923 года ОТКРЫВАЕТ СВОИ ДЕЙСТВИЯ в гор. МИНСКЕ Белорусская контора Российского Торгово-Промышленного Банка „ПРОМБАНК“

Белорусская контора помещается на углу площади Свободы и Революционной ул. (быв. Койдановской ул.), быв. здание губ. Казначейства.

Контора производит все разрешенные уставом операции

***18 жніўня 1923 года газета «Звязда» паведаміла аб адкрыцці ў сталіцы Беларусі новай банкаўскай установы — беларускай канторы Расійскага Гандлёва-Прамысловага Банка. «Белпрамбудбанку» сёння — 75!***

***Аб людзях і справах гэтай шаноўнай установы чытайце матэрыялы на 3-й — 6-й старонках газеты.***

УСМІХНЕМСЯ

*Ідуць заняткі па Закону Божаму. Бацюшка пытаецца ў вучня:*

*— Скажы, хто быў першым чалавекам на Зямлі?*

*— Адам.*

*— А якое страшнае пакаранне на яго паслаў Бог?*

*— Еву!*




Малюнак Яўгена ЦАРКОВА.

# АКБ «БЕЛПРАМБУДБАНКУ» — 75 ГАДОЎ

## ПАВАЖАНЫЯ КАЛЕГІ, КЛІЕНТЫ, АКЦЫЯНЕРЫ БАНКА!

Дарагія сябры!

18 жніўня 1998 года «Белпрамбудбанку» споўнілася 75 гадоў. Пачатак яго дзейнасці быў пакладзены стварэннем у 1923 годзе Беларускай канторы Гандлёва-прамысловага банка (Прамбанка) РСФСР.

За перыяд існавання банка змяняліся яго назвы, але нязменным заставаліся адносіны да кліента: жаданне адказваць на яго запатрабаванні, прапаноўваць і пастаянна шукаць новыя формы аказання паслуг.

Умацоўвалася экаюміка краіны, і банк актыўна садзейнічаў гэтаму. Яго кліентамі былі прадпрыемствы і арганізацыі, фінансаванне і крэдытаванне якіх надавала імклівае развіццё эканомікі рэспублікі, асабліва ў перыяд пасля Вялікай Айчыннай вайны.

Аднавасова з фінансаваннем, крэдытаваннем будаўніцтва буйнейшых прамысловых прадпрыемстваў, транспарту і сувязі, усё ў вялікіх аб'ёмах накіроўваліся сродкі на развіццё навукі, культуры, сацыяльна-бытавога і жыллёвага будаўніцтва.

Банкам вывучалася эканамічная мэтазгоднасць, нарматыўная працяглась будаўніцтва і асваення ўведзеных магутнасцяў. Думка яго была абгрунтаванай і знаходзіла падтрымку ад кліента да вышэйстаячых арганізацый.

Высокая патрабавальнасць да прафесіяналізму спецыялістаў банка дала магчымасць стварыць калектыў, які валодае магчымасцямі глыбокага эканамічнага аналізу працэсаў у эканоміцы. Гэта дало магчымасць з найменшымі стратамі выйсці банку з двух апошніх перапутванняў банкаўскай сістэмы Рэспублікі Беларусь на працягу апошняга дзесяцігоддзя.

«Белпрамбудбанк» заўсёды быў і застаецца кузняй кадраў банкаўскай сістэмы рэспублікі.

За апошнія 7 гадоў колькасць прадастаўляемых банкам паслуг вырасла больш чым у 6 разоў. Узрасла іх якасць.

Калектыў банка працуе ў адпаведнасці са стратэгіяй дзяржаўных інтарэсаў. Па-ранейшаму адводзіцца значнае месца падтрымцы базавых галін народнай гаспадаркі. Расшыраецца спектр банкаўскіх паслуг, яны набліжаюцца да сусветных стандартаў, прымяняюцца найноўшыя банкаўскія тэхналогіі.

«Белпрамбудбанк» — удзельнік буйных міжурадавых пагадненняў. У якасці агента ўрада Рэспублікі Беларусь банк абслугоўвае крэдытныя лініі Германіі, Аўстрыі, Італіі, Іспаніі, ЗША, ЕС для фінансавання праектаў, арыентаваных на выпуск у Беларусі канкурэнтаздольнай прадукцыі.

Адзначаючы сваё 75-годдзе, мы ўдзячны папярэдняму пакаленню спецыялістаў і прадпрыемствам рэспублікі за іх уклад у фарміраванне банка і ўпэўнены, што «Белпрамбудбанк» не пагоршыць эканамічнай і фінансавай перспектывы.

Віншуем усіх ветэранаў і супрацоўнікаў банка з 75-гадовым юбілеем і выказваем удзячнасць за напружаную работу ў інтарэсах яго кліентаў, акцыянераў і банка. Выказваем глыбокую ўдзячнасць акцыянерам за давер, а калегам-банкірам за паспяховае ўзаемнае супрацоўніцтва. Жадаем вам і вашым блізкім шматгадовага служэння і здабыткаў духоўных каштоўнасцяў — асновы дабрабыту чалавека на зямлі.

**Л. КАЛУГІН, старшыня Праўлення; М. РАКАЎ, генеральны дырэктар.**

## ЯК ЛЮСТЭРКА БАНКАЎСКАЙ СІСТЭМЫ КРАІНЫ

***Калектыву АКБ «Белпрамбудбанк»***

Ад імя Праўлення Нацыянальнага банка віншую калектыў АКБ «Белпрамбудбанк» са слаўным юбілеем — 75-годдзем з дня ўтварэння. Гісторыя станаўлення вашай установы, як люстэрка, адлюстроўвае ўсе этапы развіцця банкаўскай сістэмы краіны. Нягледзячы на тое, што па меры развіцця і расшырэння сфер дзейнасці ў банка мяняліся функцыі і задачы, усё ж ён захаваў сваю галоўную арыентацыю — абслугоўванне базавых галін народнай гаспадаркі. Вы дапамаглі пераадолець фінансавыя цяжкасці многім прадпрыемствам краіны, прадаставіўшы толькі ў мінулым годзе 12,5 трыльёна рублёў крэдытаў. Маючы амаль паўмільёна кліентаў, «Белпрамбудбанк» актыўна садзейнічае росту эканомікі Беларусі, паспяховаму ажыццяўленню правадзімых у дзяржаве рэформаў. Прыемна і тое, што за апошнія пяць гадоў уласны капітал банка ўзрос амаль у чатыры разы.

Як адзін з буйнейшых банкаў краіны, вы па-ранейшаму займаеце важнае месца не толькі ў галіне прамых інвестыцый, крэдытаванні, абслугоўванні юрыдычных асоб, але і ў рабоце з асабістымі ўкладамі насельніцтва.

Ваш калектыў захоўвае верным лепшым банкаўскім традыцыям. А гэта дае магчымасць «Белпрамбудбанку» захоўваць лідзіруючае становішча на айчынным фінансавым рынку і мець рэпутацыю надзейнага банка не толькі ў Беларусі, але і за мяжой. Перакананы, што калектыў «Белпрамбудбанк» не толькі захавае сваё лідзіруючае становішча, але і дасягне новых вяршынь. Дабрабыту і шчасця, моцнага здароўя вам і вашым сем'ям!

**Старшыня Праўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь П. П. ПРАКАПОВІЧ.**



● **По стажу работы ў сістэме «Белпрамбудбанка» Ганна Канстанцінаўна ВАСЁХІНА — адна са старажылаў. Яна ўжо тут працуе 32 гады, у тым ліку 10 гадоў — на пасадзе галоўнага бухгалтара.**

## ЗАСТАВАЙЦЕСЯ ПРАФЕСІЯНАЛАМІ!

Паважаныя калегі! Прыміце шчырыя віншаванні з нагоды знамянальнага юбілею — 75-годдзя «Белпрамбудбанка»!

У вашага калектыву доўгая і слаўная гісторыя. Створаны ў жніўні 1923 года, банк заняў перадавыя пазіцыі ў галіне фінансавання прамысловасці і капітальнага будаўніцтва. На ўсіх этапах свайго развіцця «Белпрамбудбанк» адыграў значную ролю ў станаўленні і пад'ёме важнейшых галін эканомікі рэспублікі, дзякуючы чаму набыў статус стабільнага фінансавага інстытута, які дынамічна развіваецца, усталяваўся як буйны ўдзельнік рынка міжбанкаўскіх крэдытаў.

Прыемна адзначыць, што паміж Ашчадным банкам «Беларусбанк» і «Белпрамбудбанкам» усталяваліся і падтрымліваюцца цесныя і ўзаемавыгадныя адносіны, заснаваныя на дзелавым супрацоўніцтве, даверы і ўзаемавыручцы. Традыцыйным стаў узаемаабмен рэсурсамі, заключэнне дагавораў на іх прыцягненне і размяшчэнне.

Сумесныя праекты дазваляюць нам вырашаць галоўную стратэгічную задачу — дапамагаць станаўленню і развіццю народнай гаспадаркі Беларусі, паляпшаць жыццё яе грамадзян.

Прыемна, што «Белпрамбудбанк», абапіраючыся на лепшыя традыцыі, развіваючы і ўдасканальваючы спектр сваіх паслуг, трывала ўтрымлівае лідзіруючыя пазіцыі ў банкаўскай сістэме рэспублікі. Гэта вынік перш за ўсё правільнага выбару стратэгіі развіцця банка, высокага прафесіяналізму кіраўніцтва і спецыялістаў, зладжанай і эфектыўнай работы ўсяго калектыву.

У гэты знамянальны дзень шчыра жадаем калектыву банка новых працоўных здзяйсненняў, поспехаў ва ўсіх пачынаннях, добрага здароўя, шчасця і дабрабыту!

**Праўленне АСБ «Беларусбанк».**

## ЛІДЭРУ АЙЧЫННАЙ БАНКАЎСКАЙ СІСТЭМЫ

*Паважаныя калегі! Прыміце нашы шчырыя і сардэчныя віншаванні з нагоды 75-годдзя «Белпрамбудбанка»!*

*З пачуццём глыбокай павагі мы адзначаем, што ваш банк стаяў ля вытокаў беларускай крэдытна-фінансавай сістэмы. На працягу мінулых дзесяцігоддзяў неадноўчы змянялася назва банка, удакладняліся яго функцыі, вызначаліся новыя накірункі дзейнасці. Але відавочна, што ўсе гэтыя змены ішлі толькі на карысць банка, гартавалі прафесійнае майстэрства, узбагачалі вопыт, фарміравалі стыль і традыцыі.*

*Гісторыя станаўлення «Белпрамбудбанка» непарыўна звязана з гісторыяй развіцця народнай гаспадаркі Беларусі. Будаўніцтва першых буйных аб'ектаў энергетыкі і машынабудавання ў 30-я гады, узнаўленне разбуранай вайной прамысловасці, транспарту і сувязі, стварэнне нафтахімічных гігантаў і сусветна вядомых вытворцаў машын і абсталявання, іх пашырэнне і рэканструкцыя, пракладка Мінскага метрапалітэна — да ўсяго гэтага «Белпрамбудбанк» мае непасрэднае дачыненне.*

*Перажыўшы ў 1991 годзе сваё другое нараджэнне, «Белпрамбудбанк» не здрадзіў традыцыям і, хутка адаптаваўшыся да новых умоў гаспадарання, упэўнена заняў месца аднаго з лідэраў айчыннай банкаўскай сістэмы. Сёння «Белпрамбудбанк» аб'ектыўна з'яўляецца адным з тых банкаў, без існавання якіх нельга ўявіць нармальнае функцыяніраванне нацыянальнай эканомікі.*

*Ад усяго сэрца жадаем «Белпрамбудбанку» стабільнага росту і прыбытку, а яго супрацоўнікам шчасця, здароўя і плённага асабістага задавальнення ад працы на карысць роднага банка.*

**Савет дырэктараў «Белзнешэканомбанка».**



● **Цэнтральны будынак АКБ «Белпрамбудбанка».**

## КУРСАМ ДАЛЕЙШАГА СУПРАЦОЎНІЦТВА

Кіраўніцтву і супрацоўнікам Беларускага акцыянернага камерцыйнага прамыслова-будаўнічага банка «Белпрамбудбанк»

У сувязі з 75-годдзем юбілеем вашага банка мы перадаём вам нашы шчырыя віншаванні і выказваем радасць, што можам раздзяліць гэтае свята з вамі непасрэдным удзелам нашага прадстаўніка ў Мінску.

Наша асабліва прызнанне мы выказваем зробленай вамі ў апошнія гады рабоце, якая забяспечыла «Белпрамбудбанку» выключнае месца ў існуючай сёння ў Беларусі банкаўскай сістэме. Кампетэнтнасць і высокая прадуктыўнасць у міжнародным бізнесе характарызуюць сёння ваш банк як надзейнага партнёра ў Беларусі, з якім мы на працягу многіх гадоў знаходзімся ў добрых дзелавых адносінах. Мы гатовыя падтрымліваць гэтыя сяброўскія сувязі з «Белпрамбудбанкам» таксама ў будучыні і — там, дзе магчыма — паглыбляць. Мы жадаем вашаму банку здаровага росту і дасягнення пажаданага поспеху і ў будучыні.

Мы рады далейшаму супрацоўніцтву з вамі і з задавальненнем будзем знаходзіць заўсёды ў вашым распараджэнні з дапамогай шырока разгалінаванай па ўсім свеце сеткі нашых установ.

**Дрэзднер банка АТ Франкфур-на-Майне.**

# ПА ПРАВУ СТАРЭЙШЫНЫ

***Акцыянерны камерцыйны прамыслова-будаўнічы банк «Белпрамбудбанк» з'яўляецца адным са старэйшых банкаў у рэспубліцы, гісторыя станаўлення якога адлюстроўвае ўсе этапы развіцця банкаўскай справы ў нашай дзяржаве. Ён быў заснаваны ў жніўні 1923 года як акцыянернае таварыства, асноўнай мэтай якога было доўгатэрміновае крэдытаванне дзяржаўнай прамысловасці. Першапачатковы перыяд дзейнасці банка адзначаны заключэннем генеральных камісійных дагавораў з трэстамі і сіндыкатамі па аказанню фінансавай падтрымкі ў рэалізацыі важнейшых для развіцця эканомікі рэспублікі відаў прадукцыі і нарыхтоўкі сыравіны.***

Важную ролю «Белпрамбудбанк» адыграў у аднаўленні эканомікі рэспублікі пасля Вялікай Айчыннай вайны. Праз яго прайшоў асноўны паток сродкаў па фінансаванню капітальных укладанняў для аднаўлення прамысловых прадпрыемстваў, транспарту, сувязі.

У статусе «Будбанка» ён ажыццяўляў фінансаванне будаўніцтва буйнейшых прамысловых прадпрыемстваў, аб'ектаў будіндустрыі, транспарту, сувязі, сацыяльна-бытавога і культурнага прызначэння. Больш за 90 працэнтаў капітальных укладанняў на развіццё эканомікі і сацыяльнай сферы рэспублікі прафінансавана праз яго ўстановы.

Выконваючы функцыі, звязаныя з фінансаваннем капітальных укладанняў, банк стварыў інфармацыйную базу, якая дазваляе ажыццяўляць аператыўны кантроль за захаваннем нарматыўных тэрмінаў і каштарыснага кошту будаўніцтва, вызначаць аптымальную колькасць незавершаных аб'ектаў, аналізаваць асваенне ўводзімых магутнасцяў. Разам з кіруючымі органамі рэспублікі былі прыняты рашэнні аб канцэнтрацыі капітальных укладанняў на аптымальнай колькасці будоўляў, што дазволіла скараціць тэрміны будаўніцтва. У 1986—1988 гг. у рэспубліцы не было «даўгабудаў», г. зн. будаўніцтва ажыццяўлялася ў межах нарматыўных тэрмінаў.

27 верасня 1991 года, на этапе фарміравання айчыннага фінансавага рынку, Банк набыў статус акцыянернага камерцыйнага прамыслова-будаўнічага банка. Прайшоўшыя 8 гадоў былі перыядам праверкі на эфектыўнасць прынцыпаў, закладзеных пры стварэнні банка як акцыянерна-камерцыйнага. З году ў год «Белпрамбудбанк» нарошчвае свой патэнцыял, пашыраючы дзейнасць па ўсіх напрамках: прыцягненне і размяшчэнне дэпазітаў; укладаў насельніцтва; інтэнсіўнае абслугоўванне знешнеэканамічнай дзейнасці; новыя віды паслуг; стварэнне дастаткова разгалінаванай сеткі карэспандэнцкіх адносінаў з замежнымі банкамі і банкамі краін садружнасці; умацаванне матэрыяльна-тэхнічнай базы банка; працягванне работы па аўтаматызацыі і камп'ютэрызацыі аперацый.

За 1992—1998 гады сума прыцягнутых у банк рэсурсаў павялічылася з 13 млрд. да 16 трлн. рублёў. Уласны капітал банка ўзрос з 345 млн. да 1,6 трлн. рублёў. На сённяшні дзень Белпрамбудбанк па велічыні ўласнага капітала з'яўляецца адным з буйнейшых банкаў Рэспублікі Беларусь, маючых рэйтынг вышэйшай катэгорыі надзейнасці. Сёлета банк атрымаў больш за 200 млрд. рублёў прыбытку.

Банк стварыў шырокую сетку з банкаў-карэспандэнтаў як унутры рэспублікі, так і за мяжой і зарэкамендаваў сябе надзейным партнёрам. Ён мае 59 філіялаў, 125 разліковакасавых цэнтраў, прадстаўніцтва ў г. Маскве. Устаноўлены карэспандэнцкія адносіны з 508 банкамі з 65 краін свету. Больш за 490 тысяч кліентаў — юрыдычных і фізічных асоб у тандэме з банкам садзейнічаюць пераўтварэнням у эканоміцы Беларусі, паспяховаму ажыццяўленню рэформаў, працоўны на грамадства ў цэлым.

Сёння «Белпрамбудбанк» абслугоўвае каля 80 працэнтаў прамысловых прадпрыемстваў рэспублікі, пастаянна аказвае ім фінансавую падтрымку. У 1997 годзе для развіцця эканомікі было прадастаўлена 12,5 трлн. руб. крэдытаў. За мінулы перыяд гэтага года — больш за 9 трлн. рублёў.

Белпрамбудбанку ўдаецца не толькі захаваць лідзіруючае становішча сярод камерцыйных банкаў рэспублікі, але і аказваць практычную дапамогу прадпрыемствам, якія трапляюць у найскладанейшыя сітуацыі. У свой час такая дапамога была аказана «Гомсельмашу», Мінскаму гадзіннікаваму заводу, Мінскаму фарфоравому заводу, Мінскаму мотавелазаводу, ВА «Віцязь», ВА «Гомельдрэў», Віцебскаму домабудаўнічаму камбінату і іншым прадпрыемствам і арганізацыям. Вялікія сродкі ўкладзены ў акцыянерныя таварыствы «Гомельшкло», «Амкадор», «Этон», Жыткавіцкі маторабудаўнічы завод, Віцебскі завод «Эвістор». Цесныя кантакты ўсталяваліся з акцыянерным таварыствам «Атлант». У тым, што вядомыя ў свеце халадзільныя маркі «Мінск» набываюць якасна новыя характарыстыкі, расце іх выпуск, немалая заслуга банка.

Як першапачатковы інвестар па продажу ГКО «Белпрамбудбанк» прадстаўляе інтарэсы кліентаў на аўкцыёнах.

«Белпрамбудбанк» з'яўляецца адным з заснавальнікаў банкаўскага кансорцыума, у састаў якога ўваходзяць украінскія «Прамінвестбанк Украіны», банк «Украіна» і «Укрсацбанк», расійскі «Крэдытімпэкс Банк» і беларускі «Белпрамбудбанк». Ён стаў класічным універсальным банкам, займае вядучае месца не толькі ў галіне прамых інвестыцый, крэдытавання, у абслугоўванні юрыдычных асоб, але і на рынку прыватных укладаў. Сёння «Белпрамбудбанк» абслугоўвае больш за 430 тысяч укладчыкаў.

«Белпрамбудбанк» пастаянна пашырае маштабы сваёй дабрачыннай і спонсарскай дзейнасці, прымаючы ўдзел у рэалізацыі праектаў і праграм, накіраваных на захаванне культурнай і духоўнай спадчыны беларускай нацыі, падтрымку найбольш сацыяльна неабароненых слаёў насельніцтва.

Усё гэта разам узятае і дазваляе «Белпрамбудбанку» захоўваць лідзіруючае становішча на айчынным фінансавым рынку і рэпутацыю надзейнага дзелавога партнёра ў краіне і за мяжой.

# КЛІЕНТЫ ЗАДАВОЛЕНЫ: З ТАКІМ ПАРТНЁРАМ, ЯК АКБ «БЕЛПРАМБУДБАНК», МОЖНА ВЕСЦІ СПРАВУ

**Пастаянна расшыраецца сёння кліентура банка. Цяпер тут абслугоўваецца амаль паўмільёна кліентаў — юрыдычных і фізічных асоб. Мы звярнуліся да кіраўнікоў буйнейшых прадпрыемстваў з просьбай выказаць свае адносіны да банка.**

***Генеральны дырэктар ВА «Беларускі аўтамабільны завод» Павел МАРЫЕЎ:***



— Бадай, ніводнае з прамысловых прадпрыемстваў рэспублікі ў свой час не было так зарыентавана на агульнасаюзныя патрэбы, як БелАЗ, прадукцыя якога, да таго ж, разыходзілася па ўсім свеце. І распад вялікай краіны з найбольшай сілай ударыў менавіта па нашаму прадпрыемству. Спад вытворчасці быў проста велізарны. І ўсё ж шматтысячны калектыў аўтамабілебудаўнікоў не разгубіўся, пачаў шукаць новыя рынкі збыту, мадэрнізоўваць вытворчасць, ставіць на паток новыя ўзоры машын, якія адпавядаюць запатрабаванням часу, знаходзяць спажыўца. Значна расшырылася гама самазвалаў. Мы пачалі выпускаць 30-, 42-, 55-, 80-, 120-, 130-, 180- і 200-тонныя кар'ерныя самазвалы. Праходзіць выпрабаванне і самазвал грузападымальнасцю 300 тон. Роўнага яму няма на планеце.

Пачалі выпускаць франтальныя пагрузчыкі, колавыя бульдозеры, цягачы-буксіроўшчыкі і шэраг іншых машын. Адначасова імкнёмся наладзіць у сябе на вытворчасці выраб дэталяў і вузлоў, якія раней паступалі з многіх рэгіёнаў былога Саюза. І пад усё гэта патрэбны сродкі. А іх пастаянна не хапае. І «Белпрамбудбанк» ахвотна ідзе насустрач, выдае крэдыты. Але і строга кантралюе правільнасць іх выкарыстання. Сумесна з банкам абсталявалі прама на прадпрыемстве два разліково-касавыя цэнтры. Строга сочым за тым, каб ні на дзень не затрымлівалася выдача зарплаты: працаўнікі добра ведаюць, што кожны месяц 6 чысла — зарплата, а 20-га — аванс.

***Анатоль ЦЮЦЮНОЎ, генеральны дырэктар ААТ «Керамін»***



— Гадоў дзесяць таму мы зразумелі: развіваць старымі метадамі вытворчасць далей не толькі бесперспектыўная справа, але і тупіковая. Прычым, з аднаго боку, трэба было мяняць саму форму ўласнасці, правесці структурную перабудову непасрэдна ў сябе на прадпрыемстве, а з другога — карэнным чынам мадэрнізаваць вытворчы працэс.

На фоне прыгожай італьянскай, іспанскай, нямецкай керамікі, якая к таму часу хлынула на наш айчынны рынак, са сваёй, мякка кажучы, не зусім сучаснай пліткай, на асаблівы попыт спажыўцоў разлічваць не даводзілася.

Што датычыцца першай часткі задачы — структурнай перабудовы, змянення формы ўласнасці, то выбралі шлях акцыяніравання. І працаўнікі прадпрыемства падтрымалі нас у гэтым. Паралельна пачалі рэканструкцыю і мадэрнізацыю вытворчасці. Выйшлі на буйнейшую ў свеце італьянскую фірму «Сакмі» па вытворчасці аўтаматызаваных ліній па выпуску глазураванай пліткі 20х15, 20х30 сантыметраў. Словам, тых памераў, попыт на якія быў асабліва высокі. Аднак на ўсё спатрэбіліся грошы, прычым валюта.

І тут, да гонару сказаць, кіраўніцтва АКБ «Белпрамбудбанк», акцыянерамі якога мы да таго часу ўжо сталі, не толькі падтрымала наш бізнес-план, але і выдзеліла пэўны крэдыт. Гэта мы потым навучыліся самі зарабляць валюту, у асноўным разлічваць на ўласныя сілы. А тады дапамога банка аказалася вельмі дарэчы. Так мы зманціравалі і асвоілі спярша адну італьянскую лінію, потым другую, трэцюю. Побач з пліткай для абліцоўкі сцен пачалі выпускаць спецыяльную плітку для падлогі памерам 30х30 сантыметраў. ААТ «Керамін» стала набіраць абароты, прадукцыя ўпэўнена заваёўвае рынкі Расіі, Украіны, Прыбалтыкі... Дарэчы, высокую ацэнку ў гэтым плане даў калектыву і прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка, які наведаў прадпрыемства два гады таму. Словам, у надзейнасці, партнёрстве «Белпрамбудбанка» сумнявацца не даводзіцца. І як юбілярам, хацелася б пажадаць ім большай смеласці, аператыўнасці, каб весці справы на ўзроўні еўрапейскіх банкаў.

***Генеральны дырэктар ДП «Граніт» Валерый ПАПОЎ:***



— Наша прадпрыемства, якое некалі будавала ўвесь Саюз і якому ў будучым годзе спаўняецца 30 гадоў, паступова старэе. Знос абсталявання дасягнуў 70 працэнтаў. Але, як і ўсюды, на мадэрнізацыю і пераабсталяванне прадпрыемства нестае грошай.

А тут яшчэ — новая праблема. Апошнім часам намячаецца бум у дарожным будаўніцтве. Толькі дарожных будаўнікоў ужо не задавальняе якасць таго шчэбню, які мы выпускаем. Яны патрабуюць так званы кубападобны шчэбень. Аднак для гэтага трэба мець якасна новае абсталяванне. У свой час шведы прапанавалі паслугі. Але для гэтага спатрэбяцца многія мільёны долараў. Такіх грошай на прадпрыемстве няма. І дзяржава дапамагчы не можа.

Давялося шукаць іншыя шляхі. Звярнуліся на вядомы «Уралмаш». І хоць там гатовы паставіць аналагічнае абсталяванне за суму, якая ў некалькі разоў меншая, чым патрабуюць шведы, але і такіх грошай у нас не аказалася. У які ўжо раз выручае АКБ «Белпрамбудбанк», кліентамі і акцыянерамі якога мы з'яўляемся. Кіраўніцтва банка ўважліва вывучыла наш бізнесплан, паабяцала выдзеліць крэдыт. Словам, яшчэ раз пераканаліся ў тым, што з такім банкам можна весці справу.

# ГРОШЫ ЛЮБЯЦЬ, КАЛІ ІХ ЛІЧАЦЬ

Усяго некалькі прыступак уніз — і перад вачыма вялізныя сталёвыя дзверы. «Ну чыста, як у кіно», — пранеслася ў галаве, пакуль загадчыца касы Кастрычніцкага аддзялення «Белпрамбудбанка» Алена Ляўчук адчыняла шматлікія запоры, якія надзейна перакрываюць доступ да таго багацця, што знаходзіцца ў мураваным пакоі.



• Загадчыца касы Алена ЛЯЎЧУК з цялежкай з грашыма;

— А калі б хто са зламыснікаў памкнуўся пранікнуць туды? — нейк само сабой сарвалася з языка.

— Нават пры самым лепшым збегу акалічнасцяў для яго на гэта спатрэбілася б некалькі гадзін, — усміхаецца кіраўнік аддзялення банка Тамара Баранчык, якая суправаджала нас у гэтай не зусім звычайнай экскурсіі ў сховішча. — Настолькі тут выдатныя запоры. А за гэты час можна прыняць любыя меры, каб затрымаць аматараў дармавых грошай.

— А як жа тады кіно? Там банкаўскія сейфы шчоўкаюць, бы тыя арэхі...

— Пры існуючай сістэме аховы самавольна пранікнуць у банкаўскае сховішча немагчыма, — тлумачыць Тамара Міхайлаўна. — Як бы каму гэтага не хацелася. А што датычыцца кіно...

І ўсё ж мы з калегам былі ўдзячныя таму, што кіраўнік аддзялення пагадзілася не толькі дапусціць у святая святых банка — сховішча, але і суправаджаць нас. Такое, прызнаюся, простаму чалавеку выпадае не часта.

А пасля таго, як тая ж Алена Ляўчук выкаціла цялежку, якія мы звычайна бачылі ў гастраномах, паўнюткую грошай у банкаўскіх упакоўках, нейк стала не па сабе. Там жа — дзесяткі, калі не сотні мільёнаў рублёў! Такой процьмы грошай ніколі ў жыцці не бачыў. А тут вось яны — побач, толькі руку працягні. Не ўтрымаўся і мой калега, зашчоўкаў затворам фотаапарата.

Кастрычніцкае аддзяленне АКБ «Белпрамбудбанка» не толькі самае вялікае ў сталіцы, але і ў рэспубліцы. Па грашоваму абарачэнню, колькасці кліентаў, якія тут абслугоўваюцца, гэта аддзяленне можна параўнаць не толькі з буйным гарадскім, але і іншым абласным упраўленнем.

Толькі ў касе пераразліку, якую мы потым наведалі, штодзённа пералічваецца ад 5 да 10 мільярдаў рублёў наяўных банкнотаў. Па словах кантралёра касы Людмілы Мананковай, без спецыяльных аўтаматычных лічыльнікаў, якімі забяспечаны ўсе касіры, пералічыць уручную такую процьму грошай было б проста немагчыма. Нават калі б сюды пасадзілі сотню чалавек.

І яшчэ з адной даволі неардынарнай справай давялося пазнаёміцца ў гэты дзень. Аказваецца, менавіта Кастрычніцкае аддзяленне «Белпрамбудбанка» ўпершыню ў нашай банкаўскай сістэме прапанавала сваім кліентам новую форму абслугоўвання — дэпазітарый асабістых сейфавых ячэек.

Сёння не сакрэт, што многія грамадзяне трымаюць дома не толькі рэдкія, але і дарагія рэчы: упрыгожэнні, антыкварыят, замежную валюту, нейкія каштоўныя дакументы. А пры існуючай сістэме запораў у стандартных кватэрах пранікнуць туды прайдзісвету не ўяўляе асаблівай цяжкасці.

Нездарма ж кажуць, што замкі — для сумленных людзей. А калі да таго ж чалавеку трэба ў нейкую доўгатэрміновую камандзіроўку ці ў адпачынак? Тут ужо будзеш чухаць патыліцу. Вось супрацоўнікі аддзялення і вырашылі стварыць дэпазітарый — месца для індывідуальнага захоўвання каштоўнасцяў, дакументаў, грошай, словам, усяго, што патрабуе асаблівай пільнай аховы. А што яна тут надзейная, у гэтым мы пераканаліся самі, калі адміністратар Любоў Гапеева правяла нас у дэпазітарый, пазнаёміла з правіламі захоўвання каштоўнасцяў, сістэмай аховы.

Аказваецца, жадаючаму змясціць там на часовае захоўванне рэчы ці грошы, варта запоўніць пэўны дакумент, заплаціць адносна невялікую суму, і яму выдадуць спецыяльную металічную скрыначку з двума ключамі: адзін — у кліента, другі — у адміністратара. Ускрыць тую скрыначку можна толькі двума ключамі. Што датычыцца самой сістэмы аховы індывідуальных каштоўнасцяў, то яна тут не горшая, чым у банкаўскім сховішчы. Таму ўсё большая колькасць людзей ахвотна давяраюць на захоўванне свае скарбы.

Менавіта Кастрычніцкае аддзяленне АКБ «Белпрамбудбанка» адным з першых у горадзе і ў рэспубліцы наладзіла выкарыстанне пластыкавых картак пры разліках за тавары. Не трэба насіць з сабою грошы: усунуў картку ў спецыяльны кантрольны апарат — і атрымлівай тавар. Зручна? Яшчэ як!

Ацанілі кліенты банка і такое новаўвядзенне, як разліковыя касавыя цэнтры, што створаны на прамысловых прадпрыемствах і ў мікрараёнах. Там працаўнікі могуць атрымаць зарплату, аплаціць за кватэру і іншыя віды паслуг. Гэты вопыт пераанялі і ў іншых банках.

А ўвогуле спраў і клопатаў у работнікаў Кастрычніцкага аддзялення «Белпрамбудбанка» хапае. Штодзённы абарот наяўных грошай перавышае 10 мільярдаў рублёў. Хапае спраў і ў крэдытчыкаў. Яны штогод выдаюць на сотні мільярдаў рублёў крэдытаў. А без грашовых уліванняў сёння не абыходзяцца ні вытворчасць, ні будоўлі, ні гандаль і бытавое абслугоўванне. І важна не толькі выдаць, але і вярнуць тыя крэдыты, ды яшчэ з працэнтамі. Але гэта ўжо галаўны боль супрацоўнікаў крэдытнага аддзела.

Вялізны аб'ём работ і ў аддзеле міжнародных разлікаў. Пастаянна расце колькасць куплі і продажу валюты на біржы. Даводзіцца весці разлікі з кліентамі блізкага і далёкага замежжа. І найперш, па словах начальніка аддзела Наталлі Кацяшовай, патрабуецца валюта для разлікаў за энерганосьбіты, для нармальнай работы міжнароднага аэрапорта «Мінск-2» і для шэрагу іншых суб'ектаў гаспадарання.

Грошы, грошы... Іх, як і здароўя, ніколі не бывае зашмат. А яшчэ яны любяць, калі іх лічаць.



• Адміністратар дэпазітарыя Любоў ГАПЕЕВА заўсёды рада прыняць кліентаў.



• У аперацыйнай зале бухгалтэрыі.




• У касе пераліку грошай.

Матэрыялы выпуску падрыхтавалі карэспандэнты «Звязды» Уладзімір ГОЙТАН, Мікалай АМЕЛЬЧАНКА (фота).

# ЛІДЭРЫ ПА ЎРАДЖАЙНАСЦІ

Абсалютным лідэрам па ўраджайнасці збожжавых на сённяшні дзень з'яўляецца СКП «Кастрычнік» Гродзенскага раёна (62 цэнтнеры з гектара). У Мінскай вобласці пакуль што лідзіруе калгас імя Гастэлы, дзе (пры ўмове, што ўбрана 76,3 працэнты ад агульнай плошчы) намалацілі 51,5 цэнтнераў з гектара. Ураджайнасць у лідэра па Магілёўскай вобласці — у калгасе «Зара» Магілёўскага раёна — складае 48 цэнтнераў з гектара. На Гомельшчыне першынство трымае калгас «Савецкая Беларусь» Рэчыцкага раёна — 41,5 цэнтнера з гектара. У Віцебскай вобласці найбольшая ўраджайнасць збожжавых дасягнута ў калгасе «Усход» Дубровенскага раёна — 46,4 цэнтнера з гектара. У Брэсцкай вобласці лідзіруе СКП «Астрамечава» (33,1 цэнтнера з гектара).

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# ЦІ ПАТРЭБНЫ МІНЧАНАМ «НАЧНЫ» ТРАНСПАРТ?

**Больш за два тыдні мінула з таго часу, як на вуліцах начной сталіцы з'явіліся аўтобусы і трамваі, што ажыццяўляюць камерцыйныя рэйсы з гадзіны ночы да паловы шостай раніцы.**

Насуперак прадказанням многіх сродкаў масавай інфармацыі, камерцыйныя прадстаўнікі грамадскага транспарту пакуль не сталі сапраўднымі канкурэнтамі таксі, нягледзячы на значна ніжэйшую плату за праезд (на аўтобусе — 30 тысяч рублёў, на трамваі — 20 тысяч). Спецыялісты адзначаюць, што пасажырапаток на камерцыйных начных рэйсах даволі слабы. Адной з прычын такой сітуацыі лічаць неінфармаванасць патэнцыяльных пасажыраў. Пацвярджаюць такую версію і звароты ў рэдакцыю, маўляў, пра такую паслугу чулі, а што, дзе, ды як — невядома.

Ва ўпраўленні транспарту Мінгарвыканкама «Звяздзе» далі дадатковую інфармацыю. Устаноўлена 5 начных аўтобусных маршрутаў і 2 трамвайныя. Аўтобусы курсіруюць: вакзал—праспект Дзяржынскага—Маліна ўка, Кунцаўшчына—вакзал—вуліца Машынабудаўнікоў, вакзал—праспект Ракасоўскага—Ангарская-4, Зялёны Луг— вуліца Талстога—вуліца Асаналіева, вакзал— праспект Жукава—вуліца Сухарэўская. Трамваі звязваюць Зялёны Луг і Серабранку з плошчай Мяснікова (маршруты першага і сёмага нумара).

Многіх нашых чытачоў цікавіла, ці ёсць графік руху начнога транспарту. Спецыялісты патлумачылі, што графік даволі ўмоўны і вызначаецца ў першую чаргу пасажырапатокам. На прыпынках плошча Незалежнасці і вуліца Талстога ёсць табло з графікам руху аўтобусаў. На практыцы трэба арыентавацца з разліку гадзіна—паўтары паміж двума рэйсамі. Чакаць аўтобус або трамвай трэба на ўстаноўленым прыпынку, інакш вадзіцель мае права не спыняцца. Абавязковымі з'яўляюцца толькі канцавыя прыпынкі. Калі ж вам спатрэбіцца выйсці, дастаткова націснуць спецыяльную кнопку. Аднак зрабіць гэта можна зноў-такі на вызначаных прыпыначных пунктах грамадскага транспарту. Кошт паездкі не залежыць ад таго, колькі прыпынкаў вы праехалі. Вадзіцель абавязаны выдаць вам білет спецыяльнага ўзору.

Каб не размахваць рукамі перад кожным аўтобусам, што трапіць у ваша поле зроку, нялішне ведаць некаторыя прыкметы «вашага». Па-першае, аўтобусы, якія працуюць на начных маршрутах, павінны быць ярка асветлены (уключана знешняе і ўнутранае асвятленне). Па-другое, на іх павінны быць шыльды з указаннем маршрутаў.

Пакуль на кожным маршруце працуе па адной машыне, аднак пры неабходнасці іх колькасць будзе павялічана. Большай папулярнасцю карыстаюцца трамваі.

**Сяргей ПРОТАС.**

# «ЧОРНАЕ ЗОЛАТА»: ЁСЦЬ 100 МІЛЬЁНАЎ ТОН

**У дзень нафтавіка — першую нядзелю верасня ў сталіцы беларускіх нафтавікоў горадзе Рэчыца адбудуцца ўрачыстасці з нагоды здабычы 100-мільённай тоны «чорнага золата».**

Нафтаздабываючай рэспублікай Беларусь стала ў 1964 годзе, калі ля вёскі Моўчаны, што знаходзіцца на шашы Гомель-Калінкавічы, быў атрыманы першы струмень прамысловай нафты. А з 29 красавіка 1965 года беларускае «чорнае золата» стала паступаць у нафтапровад «Дружба». Сёння на месцы знакамітай свідравіны N 8 знаходзіцца памятная стэла.

Пік нафтаздабычы прыходзіцца на 1975 год. Тады з нетраў зямлі людзі ўзялі 7 мільёнаў 956 тысяч тон нафты. І паплаціліся за неразумнае жаданне быць «наперадзе планеты ўсёй». Ігнараванне правілаў здабычы прывяло да заўчаснага абваднення пластоў нафты. У выніку працэс здабычы істотна ўскладніўся і стаў больш дарагім, а штогадавыя аб'ёмы «чорнага золата» знізіліся. Сёння мэта нафтавікоў — трымаць паказчык 1 мільён 800 тысяч тон у год. І знайсці яшчэ адно радовішча.

Геолагаразведачныя работы ў наш час вядуцца менш інтэнсіўна — няма належнага фінансавання. Тым не менш на геолагаў разлічваюць: мяркуецца, што зямля Палесся валодае як мінімум 160 мільёнамі тон «чорнага золата». На сённяшні дзень эксплуатуецца 551 свідравіна. У сярэднім кожная дае 1 тону нафты ў суткі.

20 працэнтаў аб'ёму нафты, што перапрацоўваецца айчыннымі заводамі, здабываецца на Палессі. Пэўную частку прадукту нафтаздабываючае ўпраўленне ў Рэчыцы прадае за мяжу.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

# ХРОНІКА АПОШНІХ ПАДЗЕЙ

● **Віктар Чарнамырдзін працягвае кансультацыі** з думскімі фракцыямі аб фарміраванні новага расійскага ўрада. Сёння павінна пачацца работа і над палітычным дакументам, без якога Дума адмаўляецца абмяркоўваць кандыдатуру Чарнамырдзіна на пасаду кіраўніка ўрада. Дэпутаты патрабуюць дагавора паміж парламентам і прэзідэнтам, які гарантуе стабільны састаў новага кабінета. Калі гэты палітычны дагавор будзе прыняты. Дума згодна ўжо 31-га жніўня разгледзець кандыдатуру Чарнамырдзіна. Учора прэзідэнт Ельцын падпісаў указ, згодна з якім ранейшы ўрад будзе працягваць працаваць — да фарміравання новага.

● **ЗША і Вялікабрытанія** чакаюць ад Лівіі афіцыйнага адказу на згоду Вашынгтона і Лондана правесці ў Гаазе суд над двума лівійцамі, якія абвінавачваюцца ў арганізацыі выбуху амерыканскага самалёта ў 1988 годзе. Па заяве дзяржсакратара ЗША Олбрайт і міністра замежных спраў Вялікабрытаніі Кука, старшынстваваць на пасяджэннях павінен суддзя з Шатландыі, над тэрыторыяй якой узарваўся самалёт. Ахвярамі тэракта тады сталі 270 чалавек. Лівія на працягу многіх гадоў адмаўлялася выдаць падазраваемых, але пад націскам эканамічных санкцый заявіла, што згодна на правядзенне суда на нейтральнай тэрыторыі.

● **ЗША прапанавалі** кіраўніцтву афганскага руху Талібан пачаць перагаворы наконт выдачы саудаўскага мільянера, спонсара міжнароднага тэрарызму бен Ладэна. Аднак кіраўнік талібаў мула Махамад Амар адхіліў прапанову, заявіўшы, што пасля амерыканскага ракетнага ўдара, нанесенага па Афганістану, гаварыць няма пра што. Паводле даных ЗША, бен Ладэн, які скрываецца ў Афганістане, мае прамыя адносіны да арганізацыі прынамсі 18 буйных тэрактаў — уключаючы нядаўнія выбухі ў сталіцах Кеніі і Танзаніі, забойства турыстаў у Лускоры і замаху на прэзідэнта Егіпта Мубарака.

● **Паводле паведамлення з Францыі**, былы прэм'ер-міністр Алэн Жупе, блізкі саратнік прэзідэнта Шырака, знаходзіцца пад следствам па абвінавачванню ў карупцыі. Як перадаюць, Жупе пагражае крымінальнае пакаранне, калі будзе даказана тое, што парыжская мэрыя прадастаўляла рабочыя месцы прыхільнікам кіруючай партыі. У той час, як Жак Шырак займаў пасаду мэра Парыжа, Алэн Жупе ведаў гарадскімі фінансамі, і пасля таго, як тры гады назад Шырак стаў прэзідэнтам Францыі, Жупе атрымаў пасаду прэм'ер-міністра. Згодна з французскімі газетамі, каля 200 чалавек атрымоўвалі зарплату ад гарадскіх уладаў, не выконваючы пры гэтым практычна ніякай работы. Парыжскія карэспандэнты адзначаюць, што следства па справе аб карупцыі яшчэ на адзін крок наблізілася да самога прэзідэнта Шырака.

● **Французская паліцыя** выявіла целы васьмі альпіністаў, якія загінулі пры ўзыходжанні на гару Манблан — самую высокую ў Еўропе. Трагедыя адбылася ў тыя дні, калі некалькі груп скалалазаў трапілі на сцежку, пакрытую лёдам пасля нядаўняга дажджу, і саслізнулі ў бездань.

● **Згодна са справаздачай Сусветнага фонда дзікай прыроды,** кожны дзесяты від дрэў на Зямлі знаходзіцца на грані знікнення. Даследчыкі вызначылі, што больш за тры чвэрці гэтых дрэў не выратуе нават кансервацыя. У ліку прычын пагрозы знікнення гэтых відаў у справаздачы называюцца высечка лесу, выкарыстанне драўніны ў якасці паліва, некантралюемыя лясныя пажары, а таксама расшырэнне паселішчаў. Фонд заклікаў да сусветных намаганняў па кансервацыі лесу з тым, каб абараніць віды, якім пагражае небяспека знікнення.

**Паводле паведамленняў інфармацыйных агенцтваў.**

# ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Дзіўнае адкрыццё зрабіў Рослінскі інстытут (Англія), які займаецца даследаваннямі ў галіне генетыкі. Там, у прыватнасці, была кланіравана авечка Долі. Па заказу Нацыянальнага саюза фермераў вучоныя правялі даследаванні ў ста птушкагадоўчых гаспадарках Англіі. На працягу некалькіх гадзін у дзень куры там падвяргаліся «гукавой атацы». І што ж выявілася? У 90 выпадках са 100 куры неслі больш буйныя яйкі і ўпэўнена набіралі ў вазе, слухаючы музыку, асабліва ў стылі рок-н-рола і «металу». Тое ж самае адбывалася з 85-працэнтамі нясушак, калі яны слухалі... рэпартажы з нядаўняга чэмпіяната свету па футболу.

**ІТАР-ТАСС**

*Паводле даных Нацыянальнага фонду сну, 56 працэнтаў усіх дарослых працуючых амерыканцаў на працягу працоўнага дня адчуваюць моцную санлівасць. А кожны пяты з 25 мільёнаў чалавек, якія заняты пісьмова, спяць на працоўным месцы. Страты вытворчасці ў выніку санлівасці складаюць у ЗША 18 мільярдаў долараў штогод. Па статыстыцы, сярод прычын аўтамабільных аварый санлівасць стаіць на другім месцы, саступаючы толькі ваджэнню ў нецвярозым стане.*

**ІТАР-ТАСС**

Не адразу зразумелі ў Кургане, чаму ў многіх пачалі ўзрывацца нарыхтаваныя на зіму слоікі з памідорамі і агуркамі. Спачатку традыцыйна падумалі на ваду — яна тут не вызначаецца добрай якасцю. Аднак аказалася, што ўся справа ў вельмі сумніўнай якасці воцату, які паступіў у магазіны Кургана. Канцэнтрацыя была заніжана амаль у два разы, адсюль і «піратэхнічныя» цуды.

**«Труд»**

# ІНЖЫНЕР ПАКВАПІЎСЯ НА КРЭДЫТ

**Сумна, відаць, закончыцца будаўніцтва ўласнага дома для адной з адказных персон Хоцімскага райвыканкама: прыйдзецца не толькі трымаць «экзамен» перад праваахоўнымі органамі, але і будынак, на які столькі сіл затрачана, хутчэй за ўсё пяройдзе ва ўласнасць дзяржавы.**

Па інфармацыі Міністэрства ўнутраных спраў, крымінальная справа ўзбуджана супраць інжынера землеўпарадкавальнага аддзела па зямельных рэсурсах райвыканкама. Як стала вядома, следству ўдалося раскапаць махлярскія хітрыкі, якія ўжыў прайдзісвет яшчэ летась. Аказваецца інжынер для таго, каб атрымаць крэдыт на будаўніцтва ўласнага дома, прадставіў фальшывыя даведкі. Такім чынам яму ўдалося атрымаць крэдыт на 102 мільёны рублёў. Зараз падман раскрыты і за леташні жарт з дзяржавай прыйдзецца расплачвацца.

**Ігар ГРЫШЫН.**

# ШАХМАТЫ

**Пад рэдакцыяй майстра спорту Уладзіміра СЫЧОВА**

**ГАДАВЫ КОНКУРС РАШЭННЯЎ**

**Заданне № 27**

**Я. Уладзіміраў** (Масква)



**Белыя**: Крh8, Фс2, Са3, Кf1 (4). **Чорныя**: Крd4, пп: с4, f3 (3). **Мат за 3 хады.**

**Заданне № 28**

**В. Мельнічэнка** (Украіна)



**Белыя**: Крe1, Ла1, Лd7 (3). **Чорныя**: Кра8, Ка3, пп: f4, g2 (4). **Мат за 4 хады.**

**МЕМАРЫЯЛ ЛЬВА ТАМКОВА**

15 ліпеня ў нашай газеце былі апублікаваны вынікі конкурсу задач на кааператыўны мат. Сёння мы прыводзім вынікі конкурсу па раздзелу эцюдаў. Складанне эцюдаў — гэта вельмі працаёмкі працэс. Таму і не дзіўна, што мы атрымалі на конкурс эцюды толькі ад чатырох аўтараў.

**Першы прыз у конкурсе прысуджаны Я. Дзвізаву (Жлобін).**



**Белыя**: Кра2, Лh4, Cd8; пп: a4, c2, f4, f7 (7). **Чорныя**: Крс4, Фb4, Сс3, п. b5 (4). **Нічыя**.

а) дыяграма; б) f4→g4; в) у параўнанні з пазіцыяй «б» трэба дадаць чорную пешку на h5.

а) 1. f5+ Cd4 2. Л:d4+! Кр:d4 3. c3! Кр:c3 4. Ca5! Ф:a3 5. f8Ф Ф:a4+ 6. Фa3+! Ф:a3+ 7. Кр:a3 b4+ 8. Крa4! (8. Крa2? Крc2 9. f6 b3+ 10. Крa3 b2 11. f7 b1Ф 12. f8Ф Фb3x) 8... b3 9. f6 b2 10. f7 b1Ф 11. f8Ф — нічыя.

б) 1. g5+ і да 8-га ходу белых уступная гульня праходзіць, як у пазіцыі а). 8. Крa2! (1. Крa4? b3 9. g6 b2 10. g7 b1Ф 11. g8Ф Фb4x) 8... Крc2 9. g6 b3+ 10. Крa3 b2 11. g7 b1Ф 12. g8Ф — нічыя.

в) 1. gh+! (1. g5+? ... 8. Крa2 b3+! 9. Крb1 h4 10. g6 h3 11. g7 h2 12. g8Ф h1Ф 13. Фg1 Ф:g1x; 8. Крa4 b3 9. g6 b2 10. g7 b1Ф 11. g8Ф Фb4x); 1... Cd4 2. Л:d4+ Кр:d4+... 8. Крa4! (8. Крa2?) 8... b3 9. h6 b2 10. h7 b1Ф 11. h8Ф+! — нічыя.

Змястоўны твор, але тэхнічна вельмі цяжкая для апрацоўкі ідэя патрабавала прысутнасці і аднолькавага ўступу ў блізнятах, як і ў пазіцыі «а», што зніжае ўражанне.

**Другі прыз прысуджаны І. Бондару (Ганцавічы).**

**Белыя**: Крc7, Лf5, Кd8; пп: a2, a3, g3 (6). **Чорныя**: Крg7, Фh6; пп: a4, c6, g6, h7 (6). **Выйгрыш**.

1. Кe6+ Крg8 2. Лf6! c5 3. Крc8! 4. g4 c3 5. g5 c2 6. gh c1Ф+ 7. Крd7(d8) Фd2+ 8. Крe7! Ф:h6 (8. Крe8? Ф:h6 9. Крe7 Фh4!) 9. Крe8! Крh8 10. Лf8+ Ф:f8 11. Кр:f8! і выйгрыш.

Цікавы твор, дзе дакладна праходзіць выбар поля для белага караля і ўзаемны цугцванг.

**Ганаровы водгук — І. Бондару (Ганцавічы).**

**Белыя**: Крg7, Лf7, Лh2, п. g2 (4). **Чорныя**: Крa4; пп: d5, e2, e5, f3, g3, h3 (7). **Нічыя**.

1. Лh1 hg 2. Лb1 g1Ф 3. Л:g1 f2 4. Лb1 e1Ф 5. Лa7+ Фa5 6. Лb7 Фc5 7. Лa1+ Фa3 8. Лb1 Фc3 9. Лa7+ Фa5 і вечная пагроза пры адмове ўзяцця фігуры.

Эцюд нагадвае твор з каманднага першынства свету, але тут праходзіць больш фарсіраваная гульня.

**Пахвальны водгук — В. Жуку (Брэст) і О. Саксу (Расія).**

**Белыя**: Крd6, Cd7, Кb4, п. d3 (4). **Чорныя**: Крh5, Cb3, п. d2 (3). **Нічыя**. Блізня: d3→d5.

1. Кd5 d1Ф 2. Cg4+ Кр:g4 3. Кe3+ Крf3 4. Кd1 і нічыя.

Блізня. 1. Cg4+ Кр:g4 2. Кd3 Cd5 3. Кb2! і нічыя.

**Суддзя конкурсу У. СЫЧОЎ** (Мінск).

*36,6*

# СЕННАЯ ПАЦЯРУХА ВЫЛЕЧВАЕ АД РАДЫКУЛІТУ

**Ведаю, што многія людзі пакутуюць ад радыкуліту. Таму вырашыў падзяліцца сваім адкрыццём і расказаць пра спосаб, дзякуючы якому я пазбавіўся ад гэтай хваробы.**

У вёсцы заўсёды можна накасіць сена, а яно, дакладней, сенная пацяруха, утрымлівае ўсё каштоўнае ад прыроды: кветачкі, насенне, лісцікі, сцяблінкі. Дык вось, аказваецца, настой з сеннай пацярухі пазбаўляе ад многіх хвароб. Жонка мая таксама пакутавала ад радыкуліту, а акрамя таго, яна насіла акуляры (плюс тры) і дрэнна бачыла без іх.

Спачатку мы па адной гадзіне сядзелі, нацершыся настоем, а ногі ставілі ў тазік з настоем. І так — праз дзень, а потым — два разы на тыдзень, скарацішы час да 30 хвілін. А цяпер — раз на тыдзень абціраемся, калі ў лазню ходзім.

Пасля першых працэдур жонка пачала скардзіцца, што вочы заплываюць, з іх цячэ гной. Але раніцай зрок праясняўся. Радыкуліт паступова адступаў, і яна вырашыла не адмаўляцца ад працэдур. А праз паўтара года пачала чытаць без акуляраў!

Пабочных эфектаў ад сена не будзе, інакш жывёла атручвалася б. Да таго ж гэтая працэдура даступная і бясплатная. Толькі трэба мець жаданне і цярплівасць лячыцца.

Цяпер раскажу пра самы спосаб. У каго лазні няма, можна дома праводзіць працэдуры — у пакоі ці ў ваннай. У каго няма сена ці пацярухі, можна травы прынесці, што сам рабіў улетку. Каб прыгатаваць адвар, вазьміце любую каструлю ці чайнік, запоўніце на трэць аб'ёму пацярухай, заліце да верху халоднай вадой і пастаўце на пліту. Давядзіце да кіпення, але не кіпяціце. Настойвайце паўгадзіны, пасля чаго працэдзіце, крыху астудзіце, каб вытрымалі ступні ног і пачынайце працэдуру.

Устаньце ў тазік з настоем і пачынайце абціранне, зачэрпваючы з яго настой, з галавы, твару, паслядоўна спускаючыся да ступняў. Па меры высыхання зноў абцірайцеся.

Яго можна выкарыстоўваць некалькі разоў. Чым настой старэйшы, тым лепш дзейнічае. Але не больш за пяць разоў — потым ён забруджваецца. Калі ў час абцірання закружыцца галава, на некалькі хвілін выйце з тазіка. Пасля працэдуры зліце адвар у чайнік, а на наступны сеанс падагрэйце да патрэбнай тэмпературы.

На працягу тыдня не мыйцеся з мылам, толькі абмывайцеся чыстай вадой (ад цела ніякага непрыемнага паху не будзе). А ў суботу можна і з мылам памыцца.

Працягласць лячэння залежыць ад вас. Трэба да таго часу прымаць працэдуры, пакуль добра не пачнеце сябе адчуваць.

**Кірыл БЛІНОЎ.** *«Крестьянка».*

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 6.06 | 20.16 | 14.10 |
| Віцебск – | 5.53 | 20.09 | 14.16 |
| Магілёў – | 5.55 | 20.06 | 14.11 |
| Гомель – | 5.57 | 19.57 | 14.00 |
| Гродна – | 6.23 | 20.29 | 14.06 |
| Брэст – | 6.26 | 20.28 | 14.02 |

### МЕСЯЦ

**Першая квадра 30 жніўня.**
**З 9.57 – 6-ыя месяцавыя суткі.**
**Месяц – у сузор'і Шаляў.**

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Іпаліта, Канкордзія, Максіма, Ціхана**
**К. Зефірыны, Марыі**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е. На большай частцы тэрыторыі рэспублікі дажджы. Вецер заходні ўмераны, месцамі парывы да 15-20 м/сек. Тэмпература паветра ў Віцебску — 14-16, у Гродне і Магілёве — 15-17, у Мінску — 16-18, у Брэсце і Гомелі — плюс 17-19 градусаў.

У наступныя двое сутак таксама чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е. На большай частцы тэрыторыі рэспублікі — дажджы. Вецер заходні ўмераны, парывы да 14 м/сек. Тэмпература паветра ўначы — 7-12, удзень — 14-19 градусаў вышэй нуля.

*Перапіска з чытачамі*

**Валеры СЛОМАК,** *г. Мінск.*

**Насеннікі патрабуюць увагі амаль штотыднёвай. Цяпер якраз час зрэзаць усе часткі, якія растуць уверх. Гэта адносіцца і да бурачкоў. Іх стрэлачкі, дзе густа сядзіць насенне, адрэжце ў 5 см ад кончыка. Што засталося, хутка набярэ кандыцыю. Зняць усе пасынкі — яны не выспеюць.**

Моркву, калі парасончыкі пачалі чарнець—бурэць і загінацца ўнутр, можна зразаць і класці на дасцяванне пад паветку ці на гарышча. Пад пучок падсцілаць паперу (газету) ці плёнку — насенне можа асыпацца.

Капусту і радыску, рэдзьку можна і не чапаць. Але лепей будзе, калі верхавінкі з кветачкамі зрэжам. Парасткі, на якіх стручкі пачалі выспяваць, зразаць і класці на гарышча да поўнага наліву.

Вось колькі грамаў насення (яно правеянае) можна (і трэба!) атрымаць з адной расліны: капуста — 20—40 г, морква і пастарнак — 15—35 г, буракі — 30—80 г, радыска — 15—20 г, салата — 2—5 г, кроп — 1—5 грамаў.

**Яўгену КУШЧЫКУ,** *г. Слуцк.*

Усе культуры, якія ўтвараюць семя (яблыня, груша) лепш за ўсё садзіць на пастаяннае месца вясной. Зіму трымаць у прыкопе. Вішні і слівы садзяць восенню. Калі вясною, то вельмі рана, як толькі дазволіць глеба. Калі пупышкі крануцца ў рост, то прыжыванне з праблемамі. Ягаднікі (парэчка, агрэст, чарнаплодная рабіна) пажадана садзіць восенню, як пазней.

**Дачнікам Смаргоні.**

Апрацоўваць дрэвы на зіму пажадана. А вішню проста неабходна. Яе вельмі запаланіла такая хвароба, як какамікоз. Добра дзейнічае бардоская вадкасць, фундазол, тапаз. Знайдзіце магчымасць каб апрацаваць дрэвы яшчэ ў жніўні ці пачатку верасня. Інакш хвароба зойдзе вельмі далёка. Дрэва калі і не загіне, то ўраджаю не прынясе.

# Угнаенні і шкоднікі

**Быццам і няма патрэбы напрыканцы лета гаварыць пра хваробы і шкоднікаў. Што змаглі, яны з'елі, ці сапсавалі. Увогуле, знішчылі ўраджай. Але наперадзе сезон 1999 года. І да яго трэба быць гатовымі.**

Першая асенняя работа — перакопка ўчастка. Яна — і мера супраць ворагаў. З верхняга слою ўсе шкоднікі (кукалкі, кладкі) загортваюцца як глыбей. Вясною вылезці з «падвалаў» ім вельмі цяжка.

Таму капаць як глыбей. Памятаеце, мы гаварылі пра двухпавярховую перакопку (на два штыкі лапаты)? Мэта — даць угнаенні на ўсю глыбіню развіцця каранёў караняплодаў (морквы, рэдзькі) і гарбузовых культур. Пры гэтым фосфар і калій не вымываюцца, а набываюць злучэнні (вокіслы), якія даступныя караням.

Колькі ўносіць калію і фосфарных? На сотку не менш як па кілаграму дзеючага рэчыва. Гэта значыць, што простага суперфасфату даём 4-5 кг, а двайнога — да 4 кг. Калійных патрабуецца менш, бо хларысты калій мае да 60 працэнтаў дзеючага рэчыва. Значыць, можна абмежавацца пакетам у 3 кг на 1,5 соткі. І першае і другое можна змешваць перад рассейваннем. Пры гэтым палову рассыпаем уздоўж, а другую палову ўгнаенняў — упоперак поля. Так кожная гранула займае якраз сваё месца. Пустэчаў не будзе.

Калі сыплем абы-як, то расліны абавязкова абдзелены. Потым іх развіццё ідзе з праблемамі. Перабольшваюць якраз монацукры і амінакіслоты. А іх вельмі любяць сасучыя шкоднікі — тля, трыпсы, клешчыкі. Наш промах спаўна выкарысталі ворагі. Ураджай слабы, прадукцыя з хібамі.

Восенню ўносяць і вапнякі для, як кажуць, раскіслення глебы. Да месца даламітавая мука, мел, вапна, попел. Але апошні за восень—зіму—вясну вельмі страчвае мікраэлементы. І яго лепш даваць вясною перад сяўбой. А дозы астатніх на сотку даволі вялікія. Калі глебы вельмі кіслыя, то каб прывесці іх у норму, трэба даць на сотку да 50—75 кг! Каб не памыліцца з дазіроўкамі, робяць аналізы. Цяпер гэты аналіз якраз да месца. Але 10 кілаграмаў даламітавай мукі на сотку ніколі не сапсуюць справы.

Вясною даём неабходную норму азоту, памятаючы формулу 1:1:1. На адзінку дзеючага рэчыва, скажам, калію, патрэбна тая ж адзінка азотных. Салетры ўносім 4-5 кг на сотку, мачавіны ў паўтара раза меней. Мачавіну абавязкова закрыць у глебе, бо яна ўлятучваецца ў паветра.

Вясною да асноўных культур падсяваем (падсаджваем) памочнікаў. Так, у ліставую капусту высадзім памідоры і календулу ці каляндру. Яны будуць адпуджваць блышак і розных матылькоў-вусеняў. Яшчэ гэтую ролю паспяхова выконвае мята перцавая. Фасоля, боб, наша каляндра, аксаміткі, якія растуць сярод бульбы, адпуджваюць каларадскага жука. Тля не можа цярпець паху цыбулі, часнаку, аксамітак, тытуню. А адзін з галоўных ворагаў агароду — драцянік уцякае ад аксамітак. А яшчэ яго данімаюць фасоля, боб, гарох.

Кожны дачнік і селянін павінен ведаць пра гэта і ўзяць падобныя звесткі на ўзбраенне.

Зімою трэба мець і неабходную колькасць ампул і таблетак для сустрэчы ворагаў сваіх культур (так званыя інсектыды). А яшчэ і набор фунгіцыдаў для папярэджвання і падаўлення хвароб.

*Хатняя аптэка*

# Лечым страўнік

**Заканчваем рэкамендацыі на лячэнне страўніка, якія прапануе народны лекар Расіі Юрый Лонга.**

Для нармальнай работы ўсёй сістэмы неабходна ўжываць шмат садавіны. А раніцай нашча з'есці 1-2 яблыкі абавязкова са скуркай. Можна выкарыстоўваць і сушаныя дары саду. Нават персікі. Калі ўсё гэта рабіць месяц—два рэгулярна, то можна пазбавіцца і ад хранічных запораў.

Раніцай за дзве гадзіны да снедання развесці ў дзвюх шклянках кіпеню дзве чайныя лыжкі з верхам пшанічнага вотруб'я, даць яму добра разбухнуць і з'есці як кашу.

*Вось якая ежа ўзмацняе работу страўніка і ўвогуле кішэчніка і тым самым аддаляе запоры:*

- усе халодныя напіткі (асабліва малако, марожанае, квас і г. д.);
- соль і салёныя стравы;
- мёд, цукрыстыя стравы (але не мучныя);
- жытні хлеб, садавіна ў скурцы, агародніна з цвёрдай клятчаткай — буракі, рэдзька, яшчэ грэчневая каша;
- кефір, кумыс, слівы, вішні, ягады парэчкі, шчаўе, памідоры, капуста, белае віно — увогуле што ўтрымлівае арганічныя кіслоты.

*Юрый Лонга раіць устрымацца ад прыёму наступнай ежы. Яна якраз прыводзіць да дрэнных вынікаў:*

- усялякія гарачыя напоі — чай, кава і нават вада;
- усё, што ўтрымлівае танін (так званыя звязваючыя рэчывы) — какава, чырвонае віно;
- рэчывы, якія валодаюць абвалакваючымі якасцямі — рысавыя і ячменныя адвары, кісялі і свежы белы хлеб, усялякія булкі і ўвогуле мучныя вырабы (асабліва цёплыя);
- сухая ежа, жылаватыя гатункі мяса.

# Падкормкі на фінішы



**Набліжаецца верасень — месяц масавай уборкі агародніны і садавіны. «Ці можна яшчэ што-небудзь падкарміць?» — пытаюцца дачнікі.**

Не толькі можна, але часта і неабходна. Гэта ў тым выпадку, калі развіццё раслін запаволенае, калі караняплоды малыя і не набралі неабходных пажыўных рэчываў.

Найперш будзем капаць бульбу. Яе не карміць, бо лісце знікла пад напорам фітафторы. Няма зялёнай часткі, няма і развіцця. Да ўборкі прыступаць як раней, калі гэтага яшчэ не зрабілі. Будзем знімаць фасолю і гарох. Іх таксама не чапаць. А вось усё астатняе можна падкарміць. Нешта адзін раз, а нешта і два разы.

Будзем памятаць правіла: любая падкормка пакажа свае якасці толькі праз 10—14 дзён. Пры гэтым умовы надвор'я адметныя: сонечна і цёпла днём, а тэмпература ноччу не апускаецца ніжэй 8—12 градусаў. Пра памідоры і агуркі (а яшчэ і кабачкі, гарбузы ды перцы) мы расказвалі. Застаюцца буракі, морква, памідоры пад плёнкай, бручка, рэдзька, зялянныя культуры, капуста.

Пачнём з бурачных градак. Самы хадавы экземпляр у 80—150 грамаў. Гаспадыні не жадаюць мець справу з маленькімі і вельмі буйнымі. І правільна робяць, бо ў іх пераважае, скажам, азот. Патрэбна зрабіць так, каб кожны корань меў да 11 працэнтаў цукру. Гэта значыць у гатаваным выглядзе не аддае гаркатой. Настаўляе на «правільны шлях» сонца (бурак — культура доўгага дня) і цяпло. А яшчэ збалансаванае сілкаванне. У апошніх падкормках мэтазгодна выкарыстаць каравяк у прапорцыі: 1:8 ці нават 1:6 (рост запаволены), шклянку попелу і абавязкова адыходы ад мыцця посуду ці гатавання грыбоў. Усе кампаненты прыведзены на вядро вады, якая настоена на сонцы. Спачатку падрыхлілі, крышачку адгарнуўшы зямлю ад каранёў, падкармілі (0,75 літра на асобіну), зноў падрыхлілі, закрываючы ямкі. У далейшым трымаць градку абавязкова ў рыхлым стане.

Праз два тыдні (да 10 верасня) вырваць самыя буйныя караняплоды, а малыя яшчэ раз падкарміць і акучыць (у верасні бываюць маразы).

Моркву таксама падрыхліць, выдаляючы пустазелле. Ля радочкаў (8—10 см) зрабіць канаўкі. У іх і наліць нашу «цёплую» падкормку (тым жа саставам, што і буракі). Калі вадкасць усмакталася, зноў падрыхліць, закрыць канаўкі і крышачку акучыць.

Зялянныя культуры і капусту лепш за ўсё карміць каравяком ці птушыным памётам. Да нашага універсальнага прэпарату дабаўляць мачавіну — ад 8 да 18 грамаў на вядро. І зноў рыхліць. Ля саміх раслін да 1—2 см, далей — глыбей (да 10—15).

На заключным этапе рыхленне — гэта тая ж падкормка. Ідуць дажджы. Глеба збітая, бы камень. Кісларод не паступае да каранёў. І як бы мы не кармілі, выніку не будзе, калі не папрацуем матычкай ці культыватарам. Гэта тычыцца і насеннікаў.

## ВІНШАВАННІ

Дарагую мамачку і жонку **КОЗІЧ Вольгу Фёдараўну** з в. Сінячова Капыльскага раёна з 75-годдзем віншуюць муж, дзеці, унукі і жадаюць ёй здароўя, дабрабыту.

Віншуем нашу дарагую і сімпатычную калегу **Таццяну Андрэеўну ЗУСЬКОВУ** з юбілеем! Жадаем ёй шчасця, здароўя і душэўнага спакою.

**Калектыў Белкамнавукі.**

Віншуем **Уладзіміра ЗАНУДЗЕНКУ** з днём нараджэння. Жадаем шчасця, здароўя, доўгіх гадоў жыцця і радасці.

**Сям'я Бекішаў.**

Віншую **Віталя і Таццяну ЧАСНАКОЎ** са шлюбам. Жадаю сямейнага дабрабыту, шчасця, здароўя і ўсяго найлепшага.

Віншую з днём нараджэння **МІНКЕВІЧА Віталя Антонавіча**. Жадаю поспехаў у працы, кахання, моцнага здароўя.

Віншуем **РУДОВІЧ Соф'ю Адамаўну** са 101-й гадавінай з дня нараджэння. Жадаем здароўя, каб яшчэ доўга радавала нас усмешкай.

**Радня.**

Віншуем любых і дарагіх **Марыю Аляксандраўну ЯНЧЭЎСКУЮ і Яўгенію Аляксандраўну ЛУБНЕЎСКУЮ** з днём нараджэння.

**Радня,** *в. Крывое Сяло.*

Віншуем з 40-годдзем **Таццяну Васільеўну ЦЯЛЯК**. Зычым моцнага здароўя, шчасця, даўгалецця.

**Муж, дочкі,** *г. Мар'іна Горка.*

Сардэчна віншуем з юбілеем **Аляксандра Іванавіча СЯМАШКУ** з г. Барысава. Жадаем моцнага здароўя, шчасця і радасці.

**Твая вялікая радня.**

*Post Factum*

## Гэты дзень у гісторы

- **26 жніўня 1382 года** — усяго праз два гады пасля пераможнай для рускіх Кулікоўскай бітвы — татарскі хан Тахтамыш, які пасля кулікоўскага разгрому адхіліў ад улады хана Мамая, хітрасцю захапіў, разрабаваў і спаліў Маскву. На гэты раз вялікі князь Маскоўскі Дзмітрый Іванавіч Данской на бой не выйшаў, а ўцёк з сям'ёй у Кастраму. Уладзімір, Юр'еў, Мажайск і іншыя гарады хутка спасціг лёс Масквы. Русь зноў была абкладзена данінай.
- **У гэты дзень у 1451 годзе** ў Генуі ў сям'і збяднелага ткача нарадзіўся вялікі мараплавец Хрыстафор Калумб.
- **26 жніўня 1743 года** нарадзіўся славуты французскі вучоны Антуан Ларан Лавуазье — геолаг, фізік, хімік, юрыст. У 1794 годзе гільяцініраваны рэвалюцыйным трыбуналам. Даведаўшыся аб гэтым, знакаміты матэматык Лагранж сказаў свайму калегу Даламберу: «Спатрэбілася імгненне, каб адсячы гэтую галаву, але, можа быць, стагоддзяў будзе мала, каб стварыць падобную ёй».
- **У гэты дзень у 1789 годзе** французскі Устаноўчы сход прыняў Дэкларацыю правоў чалавека і грамадзяніна, у якой, у прыватнасці, гаварылася: «Людзі нараджаюцца і застаюцца свабоднымі і роўнымі ў сваіх правах. Ні адзін орган, ні адна асоба не могуць ажыццяўляць уладу, якая не зыходзіць непасрэдна ад народа. Свабода заключаецца ў тым, што дазваляецца рабіць усё, што не наносіць шкоды іншаму...»
- **У гэты дзень у 1859 годзе** акружаны ў адным з горных аулаў імам Шаміль здаўся ў палон рускім войскам. Ён быў прыняты імператарам Аляксандрам II, затым імаму было дазволена выехаць у Меку, дзе і памёр. 25 гадоў ён узначальваў барацьбу народаў Чачні і Дагестана супраць Расіі. Водгукі яе чуваць і сёння.
- **26 жніўня 1880 года** нарадзіўся выдатны французскі паэт Гіём Апалінэр (Вільгельм Апалінарый дэ Кастравіцкі), маці якога паходзіла з Навагрудскага павета.
- **26 жніўня 1937 года** нарадзіўся Генадзь Янаеў, віцэ-прэзідэнт СССР, які ў 1991 годзе ўзначаліў ГКЧП, але рукі ў яго так трэсліся, што правалілі путч.
- **У гэты дзень у 1957 годзе** ТАСС паведаміла аб паспяховым выпрабаванні ў СССР першай міжкантынентальнай балістычнай ракеты.

## Кур'ёзы

***Інспектар дарожнай паліцыі Нью-Йорка Мэры Дзіпраўз заўсёды вызначалася добрасумленнымі адносінамі да сваіх абавязкаў. Напэўна, нават празмерна.***

Напрыклад, аднаго вадзіцеля яна ўмудрылася аштрафаваць на працягу тыдня шэсць разоў — за парушэнні правілаў, прычым, такія нязначныя, што ні адзін яе калега не звярнуў бы на іх увагі. У рэшце рэшт «злосны» правапарушальнік не вытрымаў і вырашыў адпомсціць уедлівай паліцэйскай. Калі Мэры ў наступны раз спыніла яго за тое, то ён нейкую долю секунды ехаў на жоўтае святло, вадзіцель выскачыў з машыны з загадзя падрыхтаваным падарункам. Ён апустошыў над галавой ашаломленай інспектаршы цэлафанавы пакет, даверх напоўнены... прусакамі, пасля чаго здаўся ў рукі падаспеўшых «копаў».

Мэры Дзіпраўз з цяжкім нервовым узрушэннем знаходзіцца ў бальніцы, і ўрачы ўсур'ёз апасаюцца за стан яе псіхікі.

## І так бывае...

***Нейкі Майкл Пацісон з Чыкага падаў у суд на вядомага амерыканскага акцёра Джона Траволту.***

Некалькі гадоў назад, Пацісон, паддаўшыся на агітацыю папулярнага акцёра, уступіў у секту саенталогіі. Траволта, сам яркі прыхільнік гэтага вучэння, паабяцаў усім гомасексуалістам, што саенталогія накіруе іх на шлях ісцінны — гэта значыць традыцыйнай сексуальнай арыентацыі. Пацісон угаварыў уступіць у секту яшчэ 22 сваіх сутаварышаў. Яны не паскупіліся і пералічылі на патрэбы саентолагаў некалькі мільёнаў долараў і сталі чакаць цуда. Яго не здарылася: жанчыны за гэты час ім мілейшымі не сталі. Цяпер Майкл Пацісон патрабуе ад містэра Траволты кампенсацыі нанесенага матэрыяльнага і маральнага ўрону.

## Цікава

Пастаянныя нападкі на каву навялі вучоных на думку падлічыць, якую ж колькасць чашак папулярнага напітку можна выпіваць у суткі, каб не нашкодзіць свайму здароўю. Дык вось, калі выпіваць 4 кубачкі кавы ў дзень, рызыка атрымаць рак прамой кішкі змяншаецца на 25 працэнтаў нават пры ўмове, што вы балуецеся цыгарэтамі.

## Вось так...

***У выніку шматгадовых дасканалых даследаванняў англійскія вучоныя прыйшлі да вельмі несуцяшальнага для дзяцей усіх часоў і народаў вываду: аказваецца, эльфы, феі, гномы, дзюймовачкі і некаторыя іншыя казачныя героі — не што іншае, як... наркатычныя галюцынацыі.***

Сярод старажытных народаў за адсутнасцю іншага наркатычнага зелля былі ў вялікай пашане розныя «чароўныя грыбы» — такія, напрыклад, як мухаморы. Апытваючы сотні сучасных прыхільнікаў псіхадэлічнай ежы, вучоныя высветлілі, што, знаходзячыся пад кайфам, тыя вядуць доўгія і «грунтоўныя» размовы з малюсенькімі чалавечкамі з крыльцамі за спінай і ў востраверхіх шапачках.

## Анекдот

*— Не ведаеце, што тут здарылася, чаму такі крык?*
*— Ды вось грамадзянку «абчысцілі».*
*— І шмат укралі?*
*— Мяркуючы па ляманту — мільёнаў на восем пацягне.*

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйнага — 68-27-41, крымінальнай хронікі і фінансавых экспертыз — 32-38-02, эканомікі — 32-31-21, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; агладальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве —31-13-75; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 81.779. Індэкс 63850.
Зак. № 5078.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12